Год IV. Студзень 1935 г. № 1 (37)

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!



Ты єси Петръ,
и на семъ камени созиждꙋ церковь мою. Мат. ѕі. иі.

## БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

ВІЛЬНЯ

Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

ЗЬМЕСТ:





# „Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопісь.**

Цана асобнага нумару 20 гр.

Падпіска на паўгода. . . . . 1 зл.

„ год . . . . . 2. „

Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

O. Antoni Niemancewicz
Dubno, Seminarjum Papieskie.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul. Wielka Pohulanka 6.
Konto czekowe P.K.O.: O. Paweł Macewicz 60.601.
Skrytka pocztowa Nr. 245.

Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1.

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопісь.

Вільня. Студзень 1935 г. № 1 (37).





И на земли миръ

во человѣцѣхъ благоволеніе

*Усім нашым Вельмі Паважаным супрацоўнікам, чытачом ды працаўнікоm для зьдзейсьненьня пажаданьня Ісусавага Сэрца, каб усе былі адно, у Новым 1935 Годзе жадаем ад шчырага сэрца багаслаўленьня Божага.*

*Рэдакцыя і Адміністрацыя „Да Злучэньня!“.*

## Новы Год, сьвята Абрэзаньня Госп. Нашага Ісуса Хр. і сьв. Васілія Вялік

(*1 студня*).

### ЭВАНГЕЛЬЛЕ

### ПАВОДЛЕ СЬВ. ЛУКІ РАЗЬДЗ. 2, 20—21, 40—52. ЗАЧАЛА 6.

20. У той-жа час вярнуліся пастухі, славячы і выхваляючы Бога за ўсё, што чулі і бачылі, як было ім сказана.

21. А як прайшло восем дзён, калі трэба было абрэзаць дзіця, далі Яму імя Ісус, названае праз Ангела, перад пачацьцем Яго ў лоне.

40. А дзіця ўзрастала і ўзмацнялася духам, поўнае мудрасьці; а сьвятадарнасьць Божая была з ім.

41. І кожны год бацькі Яго хадзілі на Вялікдзень у Ерусалім.

42. І калі Яму было дванаццаць гадоў, прыйшлі яны, як звычайна, на сьвята ў Ерусалім.

43. Калі-ж скончылі дні і вярталіся, астаўся хлопчык Ісус у Ерусаліме: і не заўважылі гэтага Язэп і Матка Яго.

44. А, думаючы, што Ён ідзе з другімі — перайшлі дзень дарогі і шукалі Яго паміж сваякамі і знаёмымі.

45 А не знайшоўшы Яго, вярнуліся ў Ерусалім, шукаючы Яго.

46. І вось па трох днёх знайшлі Яго ў храме, седзячага пасярод вучыцялёў, як іх слухаў і пытаўся ў іх.
47. А ўсе, што слухалі Яго, дзівіліся з розуму і адказаў Яго.
48. І ўвідзеўшы Яго, задзівіліся; а Матка ягоная сказала Яму: Сынок! Што-ж Ты нам гэта зрабіў? Вось бацька твой і я ў смутку шукалі Цябе!
49. І сказаў ім: Нашто вам было Мяне шукаць? Ці-ж вы ня ведалі, што трэба Мне быць у тым, што належыць да майго Айца?
50. Але яны не зразумелі слова, што сказаў ім.
51. І вярнуўся з імі і прыйшоў у Назарэт: і быў для іх паслухмяны. А Матка ягоная ўсе гэтыя словы хавала ў сваім сэрцы.
52. А Ісус узрастаў у мудрасьці і гадох, і ў ласцы ў Бога і ў людзей.

---

На гадзіньніку людзкога жыцьця выбіла 12 гадзіна, скончыўся год 1934, пачынаем новы, 1935-ты.

Год 1934 прайшоў, больш да нас ня вернецца. Мо' не для аднаго год гэты быў вельмі цяжкі, многа давялося перанясьці гора, нямала праліў сьлёз. Цяпер, гэта ўсё скончылася, астаўся толькі ўспамін.

Пачынаючы новы год, кожны жадае сабе ды ўсім сваім найдаражэйшым, каб гэты год быў лепшы, шчасьлівейшы.

Кожны жадае быць шчасьлівым, жадае іншым шчасьця. А калі мы спытаемся, што гэта ёсьць шчасьце, дык ня кожны аднолькавы дасьць адказ.

Некаторым здаецца, што быў-бы шчасьлівым, калі-б меў шмат грошай, багацьця. Праўда, цяжка жыць чалавеку без неабходна-патрэбных рэчаў, але вялікае багацьце не дае чалавеку шчасьця. Можна быць вельмі багатым і вельмі няшчасным, лепш аб гэтым ведаюць самі багатыя: як мала паміж імі ёсьць здаволеных, шчасьлівых.

Таксама шчасьця не знайдзем у ежы, бо чалавек не скаціна, апрача ежы ён мае іншыя жаданьні.

Ня можам знайсьці шчасьця, дагаджаючы целу, нашым прагавітасьцям, бо кожны чалавек мае несьмяротную душу; чым больш ён рупіцца дагадзіць целу, тым больш чуецца нездаволеным, няшчасным, бо прагавітасьць — ненасытная: чым больш чалавек ёй уступае, здавальняе яе, тым яшчэ больш дамагаецца.

Дык што ёсьць шчасьцем для чалавека, калі-ж ён будзе запраўды шчасьлівым?

Шчасьлівым ёсьць чалавек, які мае ўнутраны супакой сумленьня, мае ўсё неабходнае для жыцьця ды чуецца зусім здаволеным, ня думаючы аб багацьці. Супакой сумленьня чалавек будзе мець, калі будзе толькі аб адным рупіцца, каб пазнаць волю Божую ды выпаўніць яе.

Калі жадаем, каб новы год выпаў для нас шчасьлівым, мы павінны пачаць яго з Богам, пражыць яго ў лучнасьці з Богам ды для Бога.

За апошнія часы, па гарадох, каталікі лацінскага абраду спатыкаюць кожны новы год уночы ў касьцёле, з малітваю аб багаслаўленьні Божым, — у часе Сьв. Імшы прыймаюць сьвятое Прычасьце, — запраўды з Хрыстом пачынаюць новы год.

Як-жа гэта добра было-б, каб і мы, уніяты, або каталікі ўсходняга абраду, завялі гэтакі спосаб спатыканьня новага году па сваіх царквах, ня толькі ў гарадох, але і па вёсках.

Шмат ёсьць такіх хрысьціян, што не з малітваю на вуснах, а з бутэлькаю гарэлкі ў руцэ спатыкаюць новы год, але бутэлька нікому ня дасьць багаслаўленьня Божага. Ня кожная тварыская вячэра, дзеля прыязьні ды любові бліжняга, ёсьць грахом, калі ўсё ў меру. Нажаль, вельмі часта такая вячэра канчаецца абразай Божай.

Як-жа спатыкае новы год наш бедны беларускі мужык? Ён не займаецца такімі рэчамі: напрацаваўся пры малацьбе ў апошні дзень старога году, лёг спаць ды прачнуўшыся пачынае жыць новы, ня думаючы нават аб гэтым. Для яго ўсё роўна, ці новы, ці стары год: адно гора, адна толькі цяжкая доля!

Пэўна, што лепей ісьці спаць, як спатыкаць новы год п'яным, падобным да нябоскага стварэньня, але было-б вельмі добра, пабожаму, пахрысьціянску, калі-б бедны беларус пайшоў на новы год да царквы, памаліўся Госпаду Богу, аб багаслаўленьні на новае лепшае жыцьцё.

Сьвятое Пісьмо кажа: **„Калі Госпад ня збудуе дому, надарэмна працуюць, што яго будуюць.“**

Багаслаўленьне Божае патрэбнае ёсьць у нашай працы, у нашым жыцьці. Шмат ёсьць прычын, незалежных ад чалавека, якія могуць перашкодзіць або зьнішчыць ягоную працу. Голад, хваробы, агонь, вайна ды іншыя няшчасьці могуць неспадзявана прыйсьці, могуць пагубіць ня толькі ўсю маемасьць ды самога чалавека.

Пачынаем новы 1935 год пад пагрозаю страшэннага няшчасьця, якое можа спасьць на чалавека, — вайны. Праўда, у нашыя часы шмат гавораць аб раззбраеньні, а яшчэ больш кожная дзяржава рыхтуецца да вайны. Вайна, як

сьмерць: хаця яе і не жадаюць, яна сама прыходзіць зусім неспадзявана; пачынаючы новы год трэба прасіць Госпада Бога, каб адвярнуў ад нас страшэннае няшчасьце, якім ёсьць вайна.

Дай Божа, каб новы год для нас, для нашае роднае старонкі выпаў якнайшчасьлівейшым. Аднак-жа трэба ведаць ды трэба быць гатовым да гора, бо бяз гора няма на зямлі жыцьця. Кожны добры хрысьціянін не баіцца гора, крыжа, бо ён зносіць гора з Богам, бачыць ува ўсім ды ўсюды волю Божую, якую стараецца якнайлепш выпаўніць. Выпаўняючы волю Божую, служачы самому Богу, кожны з нас можа спадзявацца нагароды ад Бога.

Год—гэта сума часу, гэта вялікая ласка Божая. Чалавеку даецца гэты талент не на тое, каб яго змарнаваў, закопваючы ў зямлю, а каб належна выкарыстаў.

Карыстаючы з навукі жыцьцёвай, якую кожны з нас меў летась, мы павінны асьцерагацца памылак, а парупіцца аб разумным выкарыстаньні часу.

Найбольшым ды запраўдным няшчасьцем для веруючага чалавека ёсьць грэх; пачынаючы новы год, кожны з нас павінен падумаць, якім спосабам мог бы сябе захаваць ад абразы Божае. Госпад Бог дае нам новы год, дае нам магчымасьць жыцьця; ці-ж мы будзем за гэта дабро адплачваць Богу няўдзячнасьцяй, ці-ж за дабрату будзем Яго абражаць?

Знаходзімся мы на парозе новага году, Госпад Бог дае нам магчымасьць пачаць новы 1935 год, а ці дасьць нам ласку дакончыць яго, невядома. Шмат тых, што пачыналі з намі леташні год, ужо спачываюць у зямлі, няма іх паміж намі.

Госпад Бод яшчэ пазволіў нам жыць, будзем-жа карыстаць з гэтае магчымасьці, выпаўняць волю Яго сьвятую, каб заслужыць нагароду.

Ад усяго сэрца жадаю ўсім чытачом часопісі „Да Злучэньня“, каб шчасьліва, з Богам, спаткалі Новы Год ды дакончылі яго шчасьліва, каб Госпад Бог багаславіў іх у іх жыцьці. Амін.

*а. Антоні.*



# Моц Віфлеемскае ночы.

З году ў год тая самая Віфлеемская Ноч, тая самая ангельскі песьня, той самы абраз ясьляў і пячуры, — а гэта-ж заўсёды з вялікім жаданьнем і тугою прывітваем куцьцю, як быццам была-б яна першаю ў жыцьці. Бо праўды Божыя маюць у сабе тое, што зьмест іх невычарпальны, а, праменюючы ў жыцьці, яны што раз дык новы кідаюць сноп сьвятла і чалавеку, які мысьліць, насоўваюць што раз дык новыя рэфлексыі. Пачынаючы ад малога дзіцяці, якому від бліскучае ялінкі дае захопленьне і радасьць, а канчаючы на старцу, які з тугою і чуласьцю ўспамінае мінулыя гады, у калядную ноч на ўсіх находзіць настрой бадзёрае тугі ды чыстае радасьці і пераносіць іх як быццам у іншы сьвет, па якім бязустанна сумуе чалавечае сэрца. Сьціхаюць у гэтую ноч сваркі і непаразуменьні, прыціхае нянавісьць, зьнікаюць розьніцы стану ды настроі гордасьці і хрысьціянскі сьвет пераживае мамэнт як быццам залатога веку чалавецтва. А дзеецца гэта дзеля таго, што ў гэтую ноч „Слова сталася целам," што ў віфлеемскім зацішку пабраталася боская прырода з прыродаю чалавечаю, што тут адбыўся цуд любові, каторы зьдзіўленаму сьвету аб'явіў тую вялікую праўду, што „Бог ёсьць любоў" (І.1.4) і паказаў праграму новага жыцьця, праграму, якая перайначвае сьвет у адну вялікую дружыну дзяцей Божых, зьвязаных супольнаю мэтаю любові да Бога і ўзаемнае любові.

Гэты мамэнт радасьці і шчасьця, які перажываем у калядную ноч, ужо сам сабою паказвае, што істота шчасьця нават і зямнога ляжыць у тых вартасьцях, якія тояць у сабе віфлеемскія ясьлі, і што „вясёлая навіна," аб'яўленая сьвету разам з Нараджэньнем Хрыста, ёсьць адзінаю формаю магчымага сужыцьця чалавецтва. А вартасьці гэтыя настолькі-ж чужыя тагочаснай паганскай культуры, вонкава багатай ды бліскучай, а тымчасам перапоўненай стамленьнем і пэсымізмам, у запраўднасьці маюць свой зьмест у адным слове любоў, магутнасьць якога зьяўляецца здольнаю пагадзіць і пабратаць людзей паміж сабою ды прамінаючае, шэрае часовае жыцьцё асьвятліць чароўнасьцю ідэалу, падняць на вышыню, дастойную разумнае істоты.

Памылкаю новачаснага чалавецтва ёсьць матар'яльнае ды мэханічнае разуменьне сьвету, кіраваньне сабою толькі па лініі карыснасьці, зыску і ўжыцьця. У культурных краінах, — як кажа адзін з вялікіх вучоных,— паўсталі астравы бяздушнасьці, ахінены халодным матар'ялізмам-дзе чалавек чалавеку не зьяўляецца братам ані таварышам у жыцьці, а толькі інтэрэсантам або кліентам. Болей душы, болей радасьці і ідэалізму! — гэтак кліча і гэтак дапамінаецца новачасны чалавек, а тугі гэтае матар'яльная куль-

тура заспакоіць ня можа. І толькі вярхоўнае права любові робіць чалавека здольным да ахвяры, самааданьня, ідэалізму ды разам з гэтым гасіць халоднае самалюбства. Адсюль вось і вялікі ідэал, творачы як быццам карону ўсялякае культуры, ідэал абыймаючай увесь сьвет сям'і народаў зьдзейсьняецца найлепш у Царкве, у гэтай духоўнай і міравой магутнасьці, абапёртай на пераказаным Хрыстом законе любові. У каталіцызме крыюцца сілы праўдзівай унівэрсальнай культуры духу, якая ня толькі зможа выраўняць процілежнасьці сярод народаў, але разам з тым дае і позытыўныя асновы для супольнага думаньня, чуцьця і супрацоўніцтва. Віфлеемская вера паказваецца і ёсьць у істоце сваёй праўдаю агульнага значэньня, як тое сонца, што абыймае увесь зямны круг, у яе крэдо чуваць галасы ўсіх народаў, у ёй ажываюць найстарэйшыя традыцыі чалавецтва. Падобна да гэтага і каталіцкая моральнасьць апэлюе да прыроднага сумленьня і зацьвярджае ўсё тое, што ёсьць высокім у чалавечай прыродзе, падвышае годнасьць, шляхоцтва Божае кожнага чалавека, хай сабе і найдзічэйшага, як таго, што адбівае ў сабе абраз Бога, падчырквае правы слабых і прыгнечаных, культурную здольнасьць усіх расаў і плямёнаў.

І ўрэшце жыцьцё ласкі, паводле каталіцызму: „адзін хрост," які ўсіх адроджвае, „адзін хлеб," які ўсе спажываюць, адна бязустанная ахвяра „ад усходу да заходу сонца" лучыць чалавецтва надпрыроднаю супольнасьцю і творыць з яе адно містычнае цела.

Як перад віфлеемскімі ясьлямі, так і перад аўтаром зьнікаюць усе становыя процілежнасьці, касты або расы, а замест гэтага будзіцца жывая сьведамасьць адзінства дзяцей Божых ды аднае і тае-ж самае надзеі неба.

Пасьля страшэннае сусьветнае вайны, білянс якое, паводле статыстыкі Лігі Народаў, зводзіцца да 10-цёх мільёнаў забітых, 19 мільёнаў раненых, 7 мільёнаў пакалечаных, 15 мільёнаў удоваў ды сіротаў, натужваюцца сяньня дзяржаўныя мужы і кіраўнікі краін, каб знайсьці спосаб сужыцьця паміж людзьмі і выключыць з гісторыі гэткія страшныя катастрофы. Невялікія лікам ідэйныя людзі зусім справядліва галосяць перш за ўсё аб моральным раззбраеньні, а большасьць тымчасам шукае апірышча ў азбройваньнях ды трактатах, або ў міравых трыбуналах. Але ў орбіце пацыфістычных дзеяньняў не бярэцца пад увагу навука Хрыстова унівэрсальнае па сваёй прыродзе Царквы, бяз Хрыста і паміма Яго людзі імкнуцца да збратаньня народаў. Злы дух гісторыі пачынае то тут, то там прасьледаваньне хрысьціянства, у іншым ізноў месцы ўсю энэргію сваіх арганізацыяў напружвае ў кірунку зруйнаваньня асноваў хрысьціянскага выхаваньня і хрысьціянскага духу на

сьвеце, а гэтым самым зводзіць на нішто самы фундамант міру і згоды народаў. Дарэмнымі ёсьць гэтыя чалавечыя натугі, а бразгат зброі, які ад часу да часу грозным рэхам адбіваецца, вымоўна сьведчыць, што, пакуль ня будзе пераробленa душа чалавека ды настроена на тон любові і брацтва Хрыстовага, датуль гвалт і грубая сіла ў страшэнным пажары вайны будзе шукаць заспакоеньня сваіх самалюбчых імкненьняў.

Ля віфлеемскіх ясьляў схіліцца пакорна ў калядную ноч увесь хрысьціянскі сьвет; як некалі, гэтулькі вякоў назад, зыходзячы на зямлю „Князь Міру" выцягне Сваю руку да стурбаванага жыцьцём чалавецтва і проста дапрошвацца будзе, каб узяло з Яго рукі праменьчык радасьці і міру, загарантованага боскім абяцаньнем людзям добрае волі.

Дык шчасьце і мір у нашай моцы; ад нас залежыць, ці гісторыя сьвету каціцца будзе ў крывавых бітвах і ў хаосе праступленьня, ці, зноў-жа, азораная віфлеемскім знакам і клічам любові, гісторыя гэта пацячэ ў агульным брацтве і згодзе, адзіным спосабам, дастойным разумнае істоты, з забясьпечаньнем нават і зямнога дабрабыту чалавецтва. (КАП).

---

# Сьмелыя словы аб неабходнасьці грамадзкае рэформы.

Архіяпіскап з Мэльбурну (Аўстралія) Даніэль Маннікс сказаў нядаўна ў порце Мэльбурн, на сходзе мужчынскае каталіцкае моладзі, цікавую прамову, з якое зьмяшчаем гэткія словы:

„Ёсьць людзі, якія дзівяцца, што ў часе апошніх выбараў у саюзны парлямэнт камуністы атрымалі гэтак шмат галасоў. Аднак-жа тыя, хто глядзіць глыбей, павінны дзівіцца хіба з таго, што ня болей выбаршчыкаў выказалася за гэтую партыю. Бо мы вельмі добра ведаем, што шмат якія з тых, хто галасаваў за камуністаў, ужо ў працягу некалькіх гадоў пазбаўлены працы. Шмат хто запраўды знаходзіцца ў распачлівым палажэньні. Няма сумляваньня, што ў нашай цяперашняй грамадзкай арганізацыі ёсьць нешта грунтоўна фальшывае. Бог прызначыў свае дары для ўсіх людзей. Ёсьць лішка гэтага дабра, але мы ня ўмеем дзяліцца ім, як трэба. Машына, — а мушу зазначыць што я не зьяўляюся ворагам машыны, як такое, — пазбавіла хлеба мільёны людзей на ўсім сьвеце. Калі вынаходы прэцызыйных машынаў і карыстаньне чалавечаю мудрасьцю пры прадукцыі дабра вядзе за сабою галіту ў гэткіх разьмерах, дык трудна запярэчыць, што арганізацыя нашага эканаміч-

нага жыцьця ёсьць зусім фальшываю. Я не палітык, але само здаровае разважаньне кажа, што калі не скароціцца час працы, дык палажэньне нашых безработных будзе безнадзейным. Мы ня можам, як дзень, так ноч, гнаць машынаў, якія ашчаджаюць час, і разам з гэтым даваць працу людзям. Запраўды павінны надыйсьці вялікія і паважныя выпадкі, проста таму, што зашмат багацьця нацякло ў кішані капіталістаў, а вельмі мала ў рукі работнікаў. Калі сьвет ізноў мае вярнуцца да ўпарадкаваных эканамічных адносін, дык скарочаньне часу працы і падвышэньне платы здаецца мне няўхільным варункам. Толькі праз гэта звычайным работнікам можа прыпасьці болей дабра гэтага сьвету. Тады ізноў будзе болей задаволеньня, болей радасьці, а менш камуністаў. Магчыма, што заўсёды будзем мець у грамадзкім жыцьці галіту і незадаволеньне. Чалавечая прырода слабая і досыць ёсьць слабых у кожнай грамадзкасьці. Аднак-жа вялікія народныя масы жадаюць чэснае працы і—калі гэтыя абодва постуляты будуць прыняты, як аснова рэформы нашага эканамічнага жыцьця, дык край наш напэўна дачакаецца лепшае будучыні."

---

# † Маці Юлія Рулікоўская.

(*Нэкролёг*).

4-га сьнежня мінулага году ў горадзе Дубне, у доме Сёстраў Місіянэрак усходняга абраду памёрла ад грудное жабы Маці Ігуменьня Юлія, у сьвеце Ядвіга, Рулікоўская.

Нябожчыца Маці Юлія радзілася 24 траўня 1875 г. ў багатым двары сваіх бацькоў Котліцы, Люблінскага ваяводзтва.

У працягу ўсяго свайго жыцьця нябожчыца вызначалася поўнаю чысьціні моральнасьцю. Як бы ў нагароду за гэта Госпад Бог і на сьмяротным ложы захаваў выраз яе твары радасным, а ад яе трупа ў працягу 10 цёх дзён ня чуваць было ніякага няпрыемнага паху, так што ўсе прысутныя, пасьля адчыненьня труны, не маглі паверыць у яе сьмерць; няпэўнасьць іхнюю павінен быў разьвеяць спэцыяльна запрошаны доктар, сконстатаваўшы бяссумлеўную сьмерць.

Жывучы ў Варшаве, ў Саюзе Паважальніцаў Найсьв. Сэрца Ісусавага, Маці Рулікоўская займала некаторы час пасаду старшыні гэтае арганізацыі. Калі з Саюзу гэтага ў 1927 годзе выдзялілася Конгрэгацыя манашак-місіянэрак Сьв. Сэрца Ісусавага, дык яна адною з першых прыняла манашаства, увайшоўшы ў гэту Конгрэгацыю. Пасьля зацьверджаньня новае конгрэгацыі Апостальскаю Сталіцаю,

нябожчыца маці Юлія была выбрана першаю Пратаігуменьняй, а пакінуўшы гэтую пасаду, займала месца Ігуменьні ў розных манастырох. Апошняю яе пасадаю было месца Ігуменьні ў Дубне.

Нябожчыца Маці Юлія шчыра пакаталіцку, усім сваім сэрцам, успрыняла ідэю Уніі і пасьвяціла ёй сваё жыцьцё.

Усім знаўшым Нябожчыцу была вядома яе надзвычайная дабрата і мацярынская моцная любоў да бліжніх.

Хай Бог Усемагутны дасьць сваю нагароду за яе ахвярныя труды для справы Уніі!

Вечная Ёй памяць!

---

# Хроніка.

## У польшчы.

**Дубно.** 4 сьнежня мін. году памёрла М. Ігуменьня Юлія (Рулікоўская), якая была настаяцельніцай Сёстраў Місіянэрак Н. С. І., што кіруюць справай адʼжыўляньня ў Папскай Сэмінарыі ў Дубне. Кожнага дня 2 разы цэлая Сэмінарыя пры нябожчыцы адпраўляла набажэнствы. У пятніцу 7.XII.34 служыў урачыстую Сьв. Літургію а. Розэман, а пасьля паніхіду адправіў з 2 сьвяшчэньнікамі а. Рэктар А. Домброўскі, які сказаў і прамову. Сьпявалі клерыкі Сэмінарыі. Было шмат людзей, таксама і лацінскае духавенства.

Цела нябожчыцы радня забрала, перавязла ў Люблiншчыну ды там пахавала.

**Дубно.** За апошнія часы ў Дубне былі вялікія непарадкі ў г. зв. праваслаўным прыходзе. Настаяцель а. Карвоўскі хацеў з сваім прыходам выдзяліцца з-пад улады Архіяпіскапа Аляксея ды прызнаць сваім зьверхнікам Мітрапаліта Дзяніса. За гэту работу быў пазбаўлены прыходу ды забаронены ў служэньні. 1 сьнежня народ сабраўся перад царквою, царкву замкнулі. У гэтым часе праходзіў ля царквы Кс. Праф. Мірскі, людзі кінуліся да яго з просьбай, каб адслужыў ім вячэрню. Пэўна-ж ня мог ксёндз гэту просьбу выпаўніць, дык усе пайшлі на вячэрню да уніяцкае царквы. Таксама назаўтра, у нядзелю, усе прыйшлі на Сьв. Літургію, а ўвечары на акафіст.

Няма згоды, як бачым, паміж вышэйшымі ды ніжэйшымі духоўнымі ў нязлучаным праваслаўі; выхад з цяжкога палажэньня самі духоўныя бачаць толькі ў прыняцьці Сьв. Уніі. Пажывём — пабачым, чым гэта ўсё скончыцца.

**Альбэртын.** У лістападзе 1934 г. ў альбэртынскім уніяцкім прытулку адбылася акадэмія ў чэсьць Хрыста-Цара,

зладжаная круцыятай беларускіх уніяцкіх дзяцей. Гасьцей была поўная заля. Многа каштавала працы Сястрэ Гілярыі гэтая Акадэмія, але сколькі радасьці, уцехі, карысьці прынясла яна!

Жыхары вёскі Добры-Бор ля Альбэртына, праваслаўныя, зьвярнуліся да айцоў у Альбэртыне з просьбаю, каб у іх вёсцы было адпраўлена набажэнства, бо яны жадаюць прыняць Сьв. Унію. Езьдзіў да іх ужо 2 разы а. Высакінскі.

**Сельцы.** На пачатку сьнежня месяца 1934 г. Я. Пр. Япіскап Пшэзьдзецкі меў паслуханьне ў Папы Рымскага. Пэўна, што і унійная справа была парушана; мо' пасунецца справа ўперад у важных пунктах, можна спадзявацца.

**Лодзь.** На месца памёршага Япіскапа Тыменецкага, Папа Рымскі да Лодзі назначыў епархіяльным япіскапам Я. Пр. Япіскапа Ясінскага з Сандаміра.

**Спрэчкі ў Праваслаўнай Царкве.** Нацыянальная барацьба ў Праваслаўнай Царкве ў Польшчы з кожным разам павялічваецца. Як ведама, мітрапаліт Дзяніс пакінуў спаўняць функцыі япіскапа валынскага, бо епархію гэту прыняў япіскап Аляксей. З гэтым фактам цяжка прымірыцца духавенству і опініі расейскай.

Апошнім часам львоўскае „Діло“ (за І-е сьнежня 1934 г.) у артыкуле „Анархічная роля расейцаў у Праваслаўнай Царкве“ нязвычайна востра крытыкуе паступаньне мітрапаліта Дзяніса, а таксама праваслаўнага духавенства расейскае нацыянальнасьці. Гэтая газэта паведамляе, што расейскія духоўныя саноўнікі на Валыні адмовілі ў паслухмянасьці япіскапу Аляксею. Варшаўская праваслаўная мітраполія нібыто разаслала ўсім праваслаўным япіскапам распараджэньне, на аснове якога ўсе пераводы, кары і нагароды адсюль ня будуць належаць да компэтэнцыі паасобных епархіяў, а толькі да варшаўскае мітраполіі. „Діло“, ссылаючыся на гэтае распараджэньне, сьцьвярджае, што дзеля гэтага ўсякая юрысдыкцыя праваслаўных япіскапаў перастала істнаваць. У часе пабыту мітрапаліта Дзяніса ў Пачаеўскай Лаўры да яго зьявілася дэлегацыя з просьбаю ізноў прыняць валынскую епархію.

## ЗА ГРАНІЦАЙ.

**Брусэль. Роля масонэрыі ў закулісная палітыцы Гішпаніі.** Цікавыя даныя падае апошнім часам у гэтай справе „La Libre Belgique.“ Адзіны фронт масонэрыі, жыдоўства і камуністаў — вось галоўны пункт, у якім зьбягаюцца ніці ўсіх рэвалюцыйных пачынаньняў. Ужо перад вайною слабое колькасьцю гішпанскае вольнамулярства ўмела памастацку вызыскваць для сваіх мэтаў грамадзкія труд-

насьці краю. Палягчаў яму гэта ў значнай ступені цесны контакт з чужаземнымі „братамі." Крывавы тыдзень у Барцэлёне ў 1909 г. быў першаю пробаю накінуць Гішпаніі неперaборлівую ў спосабах тыранію лёжаў. Проба не ўдалалася, але на энэргічныя меры проці масонэрыі ня ўмелі здабыцца. Не здабыўся на іх нават і Прымо дэ-Рывэра, які прамаргаў небясьпекі, пагражаўшыя краю з гэтага боку. Дзякуючы гэтаму, магла ўдацца вольнамулярская рэвалюцыя 1931 году. „Браты" былі даволі спрытнымі, каб у першай яе фазе прылучыцца да каталіцкіх і консэрватыўных штандараў. Некаторыя міністэрскія пасады папалі тады ў рукі консэрватыўных каталікоў, але кіраўніцтва ўладаю трапіла ў рукі масонска-соцыялістычнай коаліцыі. Консэрватыўная маска была скінена, калі руйнацкая работа лёжаў зрабіла ўжо патрэбны поступ. Надыйшлі тады два гады ўлады, якая кіравалася клічамі рэлігійнага прасьледаваньня і законна арганізованага рабунку. Гішпанія стала над прорваю, аж, нарэшце, выбары 1933 году прынясьлі зьмену сытуацыі. Улада перайшла ў рукі ўмяркованых радыкалаў, якія, хоцькі-ня-хоцькі, мусілі пераможнай умяркованай большасьці вяртаць пакрысе найнеабходнейшыя палітычныя і грамадзкія свабоды. Аднак-жа адміністрацыйны апарат і надалей застаўся домэнай вольнамуляроў ды левых радыкалаў. Паступовае адхіляньне ўлады ад левае орыентацыі скланіла, нарэшце, масонэрыю пакінуць абшар парлямэнтарны і перанясьці розыгрыш на вуліцу. Сталася гэта зімою 1933-34 г., калі ізноў з'арганізованы быў крывавы бунт. Урад, кірованы высокім масонскім саноўнікам, меў цяпер на выбар дзьве дарогі: або скапітуляваць перад анархіяй, або здабыцца на рашучы спраціў. Выбраны быў гэты другі спосаб і ад таго часу надыйшоў пэўны нібыто спакой. Але не на доўга, бо пад'земная работа масонэрыі давяла ўвосень 1934 г. да новага, яшчэ крывавейшага за ранейшы, выбуху.

**Ватыкан. Новыя распараджэньні аб одпустах.** На памятку аб Юбілеі Адкупленьня Сьв. Айцец надаў новыя одпусты. Колькі разоў верныя з сакрушаным сэрцам адмовяць „Вѣрую во единаго Бога..." і малітву „Величаемъ Тя, Христе" з набожным разважаньнем аб муках і сьмерці Збаўцы, дык могуць атрымаць одпуст на 10 гадоў; а поўны одпуст пад звычайнымі варункамі, калі будуць іх адмаўляць штодня ў працягу цэлага месяца.

Дасюль, каб атрымаць одпусты, далучаныя да прызваньняў і малітваў г. зв. стрэлістых, трэ' было адмовіць іх вусна. Цяпер-жа і за адмаўляньне гэтых малітваў толькі ў думцы можна атрымаць усе, зьвязаныя з імі, одпусты.

**Ватыкан. Новыя правілы аб малжэнстве.** Папская камісія дзеля аўтэнтычнага выкладу канонічнага права прыняла важную пастанову аб становішчы Царквы ў адносінах да бязбожніцкіх арганізацыяў, а іменна: уступленьне ў малжэнскі саюз каталіцкае асобы з асобаю, якая належыць да бязбожніцкае арганізацыі, будзе строга забаронена, пры гэтым дыспэнса ад гэтае малжэнскае перашкоды застаецца засьцярэжанай гэтак сама, як і пры мяшаных малжэнствах (з гэрэтыкамі).

**Выздараўленьне паралітычкі.** Сярод асобаў, браўшых удзел у пілігрымцы да Кэвэлер (Надрэйнія) знаходзілася 62-гадовая паралітычка п. Гохштрас. Даволі доўгі час яна сядзела ў крэсьле для паралітыкаў і горача малілася, затым раптам устала і заявіла, што яна ўжо не патрабуе свайго возіка, бо можа хадзіць сама. Яна паўтарала „Марыя мяне вылечыла." Пасьля, бяз ніякае падмогі, выйшла з царквы і пайшла ў мястэчка.

**Пераход у каталіцтва.** Вядомая ў Нямеччыне жыдоўка, Эдыта Штэйн, пакінула юдаізм і перайшла ў каталіцтва. Нованаверненая паступіла ў ордэн Сёстраў Кармэлітак і цяпер знаходзіцца ў навіцыяце, як С. М. Бэнэдыкта.

Таксама і ў Індакітаі паступілі ў Кармэліткі тры паненкі з высокіх родаў: дачка губэрнатара Гаі-Донг, дачка князя Пуок-Мон і дачка мандарына Тах-Га.

**Лёзунг Мусоліні.** 8-га кастрычніка с. г. Мусоліні сказаў прамову перад натаўпамі ў горадзе Новара (Паўночная Італія). Паміж іншым дучэ сказаў гэткія словы: „Верыць, быць паслухмяным і бароцца." У закончаньні зазначыў, што італьянскае грамадзянства павінна падпарадкавацца гэткім клічам: „Бог, Бацькаўшчына, сям'я." Словы гэтыя былі прыняты з овацыяй і энтузыязмам.

**Строгае пакараньне іконаборца.** У Эрнакулям (Індыя) індус паламаў у мясцовай каплічцы крыж і статую Божае Маці. Назаўтра, ў знак жалобы, пазачыняны былі школы, крамы і г. д. Адбываліся шмат якія маніфэстацыі з удзелам паганцаў. Іконаборца засудзілі на двухгадовы вастрог. У хуткім часе пастаўлены быў новы крыж і статуя, што было прычынаю вялізнае маніфэстацыі, у якой бралі ўдзел 4 япіскапы, каля 200 сьвяшчэньнікаў і больш як 20.000 верных.

**Споведзь у Англіканаў.** Апошнім часам споведзь набывае ў англіканаў што раз дык большыя правы грамадзянства, ня гледзячы на тое, што толькі сто гадоў назад была англіканскімі пастарамі агульна асуджвана, як „нягоднае злоўжываньне" і адкідалася пратэстанскім кірункам. Ніжэй-

шая палата Кэнтэрбэрыйскага Сыноду прыняла спэцыяльную пастанову і выдала распараджэньне аб споведзі, вымагаючы, каб у кожнай епархіі былі зроблены сьпіскі пастараў, да якіх ў цяжкія жыцьцёвыя мамэнты маглі-б зьвяртацца пастары і звычайныя міране.

**Асаблівы юбілей.** У вэстфальскім горадзе Богум (Нямеччына) мясцовы грамадзянін Францішак Гэйльвіг сьвяткаваў нязвычайны юбілей. Дзякуючы яго падмозе 60 маладых людзей, пераважна з убогіх сфэраў, выйшлі ў сьвяшчэньнікі. Апошні протэгованы якраз атрымаў высьвячэньне ў Рыме. Кардынал Пачэльлі прыслаў юбіляру ад імя сьв. Айца павіншаваньне і выражэньне прызнаньня яго набожнай дзейнасьці.

**Місіі за час понтыфікату Піуса XI.** Заграничныя місіі ў першым 10-годзьдзі понтыфікату сьв. Айца Піуса XI прадстаўляюцца гэтак: 130 новых місійных тэрыторыяў, паганцаў ахрышчана больш як 6 мільёнаў, лік духоўнікаў павялічыўся на 2.374, паўстала 130 малых сэмінарыяў, прыбыло 38.318 катэхістых, іншых сьвецкіх працаўнікоў — 12.022, місіянэрскіх арганізацыяў 127, школаў 11.587 і 687.907 вучняў, 244 сіроцкія дамы і 90 бальніцаў.

**З тэатру ў манастыр.** За два гады трэці раз здараецца, што тэатральныя артысткі паступаюць у манашкі. Апошнім часам у Парыжы Марыя Вэндлінг, артыстка тэатру Pigalle, паступіла навіцыяткаю ў манастыр Прасьвятой Дзевы, Царыцы Апосталаў у Venisseux каля Ліону. А раней у манастыр Бэнэдыктынак паступілі артысткі: Івонна Гаутін з тэатру Францускае Камэдыі і Зузанна Дэлёрмэ з тэатру Champs Elysèes.

**Гігіена і маральнасьць.** У мінулым годзе прыбыло ў Рым 3.600 настаўніц, сярод якіх было 150 манашак, каб разам прайсьці падгатоўчую навуку фізычнага выхаваньня, абапёртага на здаровых маральных асновах. Увосень паўтарыла гэтыя самыя курсы больш як 6.000 настаўнікаў і прафэсароў. Цікава, што ў Італіі ўмеюць захаваць гігіену ў фізычных цьвічэньнях і адначасна трымацца асноваў маральных і саромлівасьці. У нас выхаваўцы яшчэ ня хочуць зразумець, што выхаваньне цела і сэрца павінна ісьці разам і ўзаемна адно другое падтрымліваць. У праціўным выпадку фізычнае выхаваньне нічога нявартa.



# КУТОК ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



## Мала вядомыя хлапцы-мучанікі.

15-га лютага кожнага году Каталіцкая Царква сьвяткуе ўрачыстасьць 26 цёх японскіх мучанікаў, паміж якімі былі 3 хлапцы замучаны ў часе прасьледаваньня ў панаваньне імпэратара Таікосамы. Імёны іх: Людвік 10 гадоў, Антоні 13 г. і Тамаш 14 гадоў.

Ігумен аднаго з манастыроў хацеў іх уратаваць ад сьмерці, але яны з плачам прасілі, каб ён не перашкаджаў ім загінуць мучаніцкаю сьмерцю.

Дзеля адстрашэньня сваіх падданых ад вызнаваньня каталіцкае веры імпэратар Таікосама загадаў абвозіць засуджаных на сьмерць па ўсёй краіне. Кожнаму з іх адрэзвалі кусок левага вуха, каб у выпадку ўцяканьня можна было лёгка пазнаць іх і злавіць. Усюды, дзе паказваўся воз з мучанікамі, ня толькі хрысьціяне, але і паганцы выказвалі хлапцом сваё спачуваньне, дзеля таго што з прычыны рэлігіі іх засудзілі на гэткае жорсткае мучаніцтва.

4 лютага 1597 году воз затрымаўся ў Нагасакі, дзе на другі дзень усе засуджаныя павінны былі згінуць на крыжох. Усе яны адбылі апошнюю Сьв. Споведзь.

Тамаш напісаў нават яшчэ і пісьмо да свае маткі, бо назаўтра меў быць замучаны разам з бацькаю, дык і хацеў пацешыць цяжка засмучаную сваю матку. Вось словы яго пісьма:

„Найдаражэйшая мама! Ня плач па тату і па мне, бо заўтра мы будзем у небе“.

Антоні мусіў перажыць цяжкую барацьбу. Яго бацькі-паганцы прыбылі ў Нагасакі і, з гвалтоўнымі просьбамі і сьлязьмі, намаўлялі яго да адступніцтва ад веры. Нават царскі намесьнік абяцаў Антонію, што займецца ім, як уласным сынам, і што перадасьць яго царскай апецы, калі ён зрачэцца хрысьціянскае веры, але Антоні даў яму гэройскі адказ:

„Ці ты лічыш мяне дурнем і думаеш, што я буду дачаснае жыцьцё цаніць вышэй за вечнае? Я не баюся сьмерці і жадаю памёрці за Хрыста“.

Падобна да гэтага сказаў і 10-цёхгадовы Людвік:

„Нікчэмная была-б гэта замена—даваць вечнае жыцьцё за зямное!“

Назаўтра працэсія 26 мучанікаў ішла парамі на месца казьні. Хлопцы ішлі наперадзе на верх узгорка, дзе, над берагам мора, нарыхтована было 26 крыжоў, да якіх прымацавалі апраненых мучанікаў жалезнымі абручамі вакол шыі, рук і ног.

Падняўшы крыжы, меліся зрабіць з мучанікамі нешта сьмяротнае, прабіваючы іхнія грудзі дзідаю зьнізу дагары, з правага і з левага боку. Малы Людвік, бачачы сваё прозьвішча на крыжы, шпарка падбег да яго, пацалаваў і лёг на крыж.

Праз мінуту ўсе крыжы былі паднятыя.

Раптам усе мучанікі пачалі пяяць „Цябе, Божа, хвалім“. А малы Антоні серабрыстым галаском завёў псалом 112-ты „Хвалеце, хлапцы, Госпада“. Два іншыя хлапцы ўтаравалі яму гэтак музычна, тонка і ўзварушліва, што хрысьціяне пасьля гаварылі: „Здавалася, што не хлапцы, а ангелы пяюць свае песьні“.

Антоні ўжо не дакончыў псалма; калі ён пяяў „Слава Айцу і Сыну і Сьвятому Духу“, дык жаўнер дзідаю прабіў яму грудзі. Словы „і навекі вечныя“ хлопчык скончыў ужо ў небе.

Да наймалодшага Людвіка падыйшоў япіскап, якому пазволена было быць пры казьні; ён дадаў хлапцу бадзёрасьці словамі: „За мінутку будзеш ужо ў раі“. Хлопчык, пачуўшы гэта, гэтак радасна падскокваў у аковах, што ўвесь крыж трособя, і ўсё радасна паўтараў: „О, раю, о, раю!“ Пасьля пахіліў галоўку ў бок расьпятага побач сьвяшчэньніка і спытаўся ў яго, якую цяпер пяяць песьню. У гэты мамэнт дзіда разьдзёрла яму грудзі, а нявінная душа яго, дзесяць месяцаў назад абмытая вадою Сьв. Хросту, адляцела да неба.

## Усячына

— У Польшчы налічваецца цяпер 14.836 хворых розумам. У параўнаньні з мінулымі гадамі, лік гэты пабольшаў на колькі процантаў.

— Некалькі матросаў з савецкіх караблёў, якія адведалі польскі порт Гдыню, засталося ў гэтым порце, тлумачачы свой паступак перад польскімі ўладамі тым, што яны хацелі гэткім спосабам уцячы з Савецкае Расеі.

— Каля Вільні, ў вёсцы Белая-Вака, памёр найстарэйшы віленскі грамадзянін А. Рымашэўскі ў веку 115 гадоў. Да апошняга часу ён чуў сябе вельмі добра і ніколі небясьпечна не хварэў.

— У вышэйшых школах Польшчы вучыцца цяпер 49.727 чалавек моладзі, з чаго 34.528 мужчын і 14.999 жанчын. Студэнтаў каталікоў ёсьць 36.054, грэка-каталікоў — 1.788, пратэстантаў 1.303, праваслаўных 1.229, а жыдоў — 8,439 або 17 процантаў.

— Як падлічана, паводкаю ў кракаўскім ваяводзтве (не хапае даных па двух паветах) зьнішчана 72.981 гаспадарка. Затанула 55 чалавек, 92 штукі коняй, 834 штукі рагатае жывёлы, 2.479 сквіней і каля 14.000 птушак. Вадою зьнішчана 1.088 вульёў з пчоламі і 4.023 фруктавых дрэваў, няжывы інвэнтар, а таксама хаты і земляробскае дабро.

— У паразуменьні з „Польскім Радыё“, пошта зьменшыла радыяфонічную аплату да 1 злотага, замест ранейшых 3 злотых, але толькі для вёсак.

*Przesyłka opłacona ryczałtem*

# Календар

на м—ц Студзень 1935 г.

| Стары стыль. | | | | | Новы стыль |
|---|---|---|---|---|---|
| Календ. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kalend. niadz. i św. łacin. abr. | | |
| 1 | П | *Абрэв. Госп.* **Новы Год.** | 14 | P | Hilaryja |
| 2 | А | Сыльвэстра Папы Рым. | 15 | A | Paŭły I pust. |
| 3 | С | Малахіі, Гардзея | 16 | S | Marcelija pap. m. |
| 4 | Ч | Саб. 70 Ап., Феактыста. | 17 | Č | Antonija ap. |
| 5 | П | *Куцьця.* Феапемпта і Ф. | 18 | P | Katedry św. Piotry |
| 6 | С | *Богаўяўленьне Г.* **Вадохр.** | 19 | S | Henryka b. m. |
| 7 | Н | **Н. 34 п. Пр.** С. Іоан. П. | 20 | N | **2 pa 3 Kar.**, Fabijana |
| 8 | П | Юрыя, Амільяна, Дам. | 21 | P | Jahniešy p. m. |
| 9 | А | Мч. Паліеўкта | 22 | A | Wincentaha i Anastaza |
| 10 | С | Грыгора Ніс., Дом., М. | 23 | S | Zar. N.M.D., Rajmonda |
| 11 | Ч | Хвядоса Вял. | 24 | Č | Tymoteuša b. m. |
| 12 | П | Мч. Тацьцяны | 25 | P | Nawiarn. św. Paŭły ap. |
| 13 | С | Мчч. Ярміла і Стратон. | 26 | S | Palikarpy b. m. |
| 14 | Н | **Н. 35 п. Пр. Айц.,** з. у С. | 27 | N | **3 pa 3 Kar.**, Jana Chryz. |
| 15 | П | Паўла Фів. і Іоан. Кушч. | 28 | P | Flaŭjana, Walera |
| 16 | А | Пакл. вярыг. ап. Пётры | 29 | A | Franciška Salez. |
| 17 | С | Антонія Вял. | 30 | S | Martyny, Hiacynty |
| 18 | Ч | Апанаса і Кірылы Ал. | 31 | Č | Piotry z Holaska. |
| | | | | | LUTY. |
| 19 | П | Макара Эгіп. | 1 | P | Ihnacyja b. m. |
| 20 | С | Яўхіма Вял. | 2 | S | **N.M.Dz. Hramničnaj.** |
| 21 | Н | **Н. 36 аб Хан.,** Макс. С. | 3 | N | **4 pa Kar.**, Błažeja |
| 22 | П | Цімахвея, Анастасія | 4 | P | Andreja Kors. |
| 23 | А | Кліманта, Агафангела | 5 | A | Ahaty |
| 24 | С | Ксеніі | 6 | S | Tyta, Daroty |
| 25 | Ч | Грыгора Багаслова | 7 | Č | Ramualda ap. |
| 26 | П | Ксэнафонта і Марыі | 8 | P | Jana z Maty |
| 27 | С | Пер. мошч. Іоана Зал. | 9 | S | Cyryla, Apalonii |
| 28 | Н | **Н. 37 аб Закхеі. Яф.** С. | 10 | N | **5 pa 3 Kar.**, Schalastyki |
| 29 | П | Пер. мошч. Ігната Баг. | 11 | P | Zjaŭl. N.M.D. ŭ Lurdzie |
| 30 | А | Вас. В., Г. Б. і І. З. | 12 | A | 7 zakładč. Serwitaŭ |
| 31 | С | Кіра і Іоана | 13 | S | Ryhora II pap. |

Рэдактар а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.